# Тыднёвік Магілёўскі




№ 5 (69) 11 – 17 лютага 2000 г. Кошт 50 руб.


## Салідарнасьць інтарэсаў ня стала салідарнасьцю дзеяньняў






*Прадпрымальніцкі страйк, у працягласьць і вялікія маштабы якога адпачатку мала хто верыў, сапраўды цягам тыдня суцішыўся і спыніўся. (На гэты конт днямі да калегаў прыняты Зварот, падпісаны старшынём Рады свабоднага прафсаюза прыватных прадпрымальнікаў Магілёва Сяргеем Фаміным). Тым ня менш акцыя дала некалькі карысных высноваў.*

*Па-першае, выявілася, што замяніць сапраўдных прыватных гандляроў няма кім і таму ўлада ня здолела, як гэта было з мэтрапалітэнаўцамі, паставіць на іхныя месцы каго іншага (а такія намеры былі).*

*Па-другое, атрымалася, што нават самую апалітычную масу – прыватных камэрсантаў – нашая некампэтэнтная ўлада справакавала на пратэст, чым прадаставіла людзям падставу задумацца аб характары і зьмесце гэткай «народнай» улады.*

*Па-трэцяе, сталася відавочным як ніколі раней, што толькі салідарнасьць (якой пакуль не стае) можа дамагчыся стаючых пераменаў ня толькі ў жыцьці й існаваньні асобна ўзятага сацыяльнага клясу, але і ўвогуле ўсяго беларускага грамадзтва.*

*Асноўныя з гэтых высноваў прагучалі ў мінулую пятніцу на агульным сходзе ўдзельнікаў магілёўскага страйку, што прайшоў у ДК швэйнікаў. Здавалася, што ўсе 350 чалавек, якія тут сабраліся, былі настроеныя рашуча і ўпарта. Бо ў зале супадалі ня толькі думкі, але і, так бы мовіць, дыханьне. Прыватнікі называлі лічбу ў 500 мільярдаў рублёў (старымі), якую яны плоцяць у выглядзе падаткаў і таму лічылі, што проста так улада ад іх не адмахнецца. Аднак на сустрэчу зь імі ніхто з «высокіх» прадстаўнікоў улады прыйсьці не наважыўся, лішні раз пацьвердзіўшы сваю абыякавасьць да пытаньняў мясцовага бюджэту, бездапаможнасьць і поўную залежнасьць ад «цэнтру». А нейкага чыноўніка, якога амаль вышturхнулі на сцэну, заля па-простаму засьмяяла ў адказ на ягоныя заклікі пра «будаваньне цывілізаванай дзяржавы»...*

*За мінулыя пасьля сходу дні ўлада здолела пераканаць страйкоўцаў вярнуцца да працы. Прадпрымальнікі згадзіліся на некаторыя ўмовы авансам, бо ім паабяцана, што новы прадпрымальніцкі дэкрэт улічыць многія іхныя патрабаваньні.*

*Па камэнтар мы зьвярнуліся да старшыні абласнога камітэту па прадпрымальніцтву і інвэстыцыях Аляксандра Горваля. У нечым ён прызнаў справядлівасьць прадпрымальніцкага незадавальненьня, у прыватнасьці, назваў «няўдалай» мэтодыку падліку падатку на дабаўленую вартасьць. Запэўніў, што ўрад гэта абавязкова перагледзіць. Але шмат што ў камэнтары кіраўніка абласнога ўзроўню насьцярожыла. Напрыклад, заўвага пра тое, што «калі б не баставалі, пастанова пра адмену падатку была б выдадзеная ўжо». Атрымліваецца, што затрымкай гэтага рашэньня ўлада помсьціць прадпрымальнікам (?!) Ці ж гэта па-дзяржаўнаму? Альбо такія вось пасажы: «З гэтымі людзьмі ў мяне не атрымліваецца размовы», «Цяжка з тымі, хто па-свойму разумее грамадзкую актыўнасьць і падбівае астатніх».*

*Ня верыцца, што такая ўлада здольная цывілізавана вырашыць праблемы прыватнага прадпрымальніцтва. Наш журналісцкі настрой, праўда, мае тут пабочнае значэньне. Важка тое, што ўладзе паверылі страйкоўцы. Памагай, як гаворыцца, Бог...*

*Аднак свае абавязкі перад грамадзтвам, чыёй часткай ёсьць прадпрымальнікі, маем і мы, занатоўшчыкі падзей і фактаў. Гэтыя абавязкі дыктуюць казаць праўду і адкрыта дзяліцца прадчуваньнямі. Яны нялёгкія. Падаецца, што нявычарпаная ў лютаўскія дні салідарнасьць яшчэ спатрэбіцца ўсім нам. Калі, зразумела, яна ня зьнікне ўвогуле як эмацыйны прывід.*

**Уласны камэнтар**



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Магілёўскаму мастацкаму музэю з Нацыянальнага, што ў сталіцы, перадаецца некалькі палотнаў Л.Дударэнкі, якія аб'яднаныя тэмай «Званы праваслаўя». Міжволі зьвяртаеш увагу на тое, што ў нашай шматканфэсійнай краіне праваслаўная царква карыстаецца падтрымкай, як тое кажуць, з усіх бакоў. Ня дзіва, бо яе поўная назва ўтрымвае слова «маскоўская».

У абласным цэнтры прайшоў двухдзённы сэмінар па праблемах агародніцтва, які сабраў досыць аўтарытэтную кампанію спэцыялістаў з 15 краінаў сьвету, у ліку якіх былі прадстаўнікі ЗША, Нямеччыны, Нідэрляндаў, Бэльгіі, Латвіі. І ўсё б добра, каб не нашая сельская гаспадарка. Яе прынцыповая пабудова ня можа адэкватна ўспрыняць напрацоўкі замежных спэцыялістаў, бо грунтуецца на зусім іншых эканамічных і сацыяльных прынцыпах.

У Краснапольлі супрацоўнікі раённых электрасетак выявілі, што з часова законсэрваванай ЛЭП, што ідзе па раёну, скралі амаль 30 км алюмініевага кабэлю. Як сьведчаць спэцыялісты, гэта рэкорд. Раней выкрадальнікі далей «вырубкі» часткі тэлефанічнага кабэлю ня ішлі.

Магілёўскі выканкам правёў гарадзкі сход «партыйна-гаспадарчага актыву». Няхай гарадзкое беспартыйнае начальства даруе мне гэтае вызначэньне, аднак жа вельмі многае падчас паседжаньня нагадвала мерапрыемства з мінулых часоў. І даклад старшыні гарвыканкаму Міхаіла Краснова, і спрэчкі, і прапановы, і рашэньне.

У вобласьці сёньня жыве 1400 сіротаў. Пра гэта паведаміла рэгіянальнае прадстаўніцтва беларускага Цэнтру па ўсынаўленьні. Зь іх толькі 108 дзяцей былі прынятыя ў новыя сем'і. Да-караць грамадзтву асабліва не даводзіцца, як гаворыцца, самім бы выжыць.

Набірае тэмпы чарговы спажывецкі вэрхал – цукровы. Рэалізацыя гэтага прадукту за апошнія дні падскочыла ўдвая ад звычайнага спажываньня. Побач з гэтай зьявай пануюць чуткі пра рэзкае падаражаньне цукру, якое чакаецца. Ніхто не бярэ на сябе адказнасьць іх абвергнуць альбо пацьвердзіць. Пажывём – пабачым, толькі і можна на такое сказаць.

У Магілёўскім гарвыканкаме днямі зьявіўся новы намесьнік старшыні. Ім сталася Галіна Марцінкова, якая будзе адказваць за гандаль, разьвіцьцё прадпрымальніцтва і сацыяльную абарону насельніцтва. Цяжка не зьвярнуць увагу на тое, што ўсе тры пазыцыі ў жыцьці, як вядома, часьцей за ўсё выяўляюць сябе як праціглеглыя. На выканкамаўскае меркаваньне, як бачым, гэта ня ёсьць перашкодай для таго, каб усе гэтыя пытаньні былі ў руках аднаго чалавека.

Пазаўчора сэсія абласнога Савета зацьвердзіла сацыяльна-эканамічныя вынікі (несуцяшальныя, як ведаем) мінулага года і прыняла прагнозны плян разьвіцьця і бюджэт на год бягучы. Асаблівых спрэчак на сэсіі не было. Цяпер яна ў такім стане, што дэпутаты прымаюць ня тое, што дыктуюць ім выбаршчыкі і, зразумела, рэальныя абставіны, а тое, што дыктуе нашым выбраньнікам выканаўчая ўлада.

*Да сустрэчы ў «ТМ» у наступную пятніцу. Тэлефануйце мне – 22-97-82 – калі валодаеце цікавай інфармацыяй. Сымон Глазштэйн.*

